

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 2(387) 13 СТУДЗЕНЯ 1999 г.**

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы можам паведаміць вам вынікі падпіснoй кампаніі на першы квартал 1999 года. "Наша слова" -- адна з нямногіх газет, якая робіць гэта рэгулярна. Задача гэтых публікацый: не пахваліцца поспехамі ці пажаліцца на несвядомых грамадзян, якія не хочуць чытаць "Наша слова". Задача: паказаць рэальны стан у ТБМ, паказаць рэгіёны першапачатковага прыкладвання намаганняў. У шэрагу раёнаў за год не выпісалі ні аднаго асобніка газеты ТБМ, пра якую арганізацыю там можна казаць? Шаноўныя кіраўнікі рэспубліканскай і абласных арганізацый, чытайце, аналізуйце, рабіце высновы.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць** | | |
| Бешанковічы р.в. | 3 | - |
| Браслаў р.в. | 3 | 1 |
| Віцебск гор. | 24 | 31 |
| Віцебск РВПС | 3 | 4 |
| Верхнедзвінск р.в. | 9 | 1 |
| Глыбокае р.в. | 10 | 11 |
| Гарадок р.в. | 2 | 1 |
| Докшыцы р.в. | - | 2 |
| Дуброўня р.в. | - | 2 |
| Круляўшчызна | 1 | 2 |
| Ліёзна р.в. | - | - |
| Лепель р.в. | - | - |
| Міёры р.в. | 4 | 5 |
| Наваполацк гор. | 13 | 10 |
| Ворша гор. | 7 | 17 |
| Полацк гор. | 32 | 48 |
| Пастaвы р.в. | 5 | 6 |
| Расоны р.в. | - | 1 |
| Сянно р.в. | - | - |
| Талочын р.в. | - | 3 |
| Ушачы р.в. | - | 3 |
| Чашнікі р.в. | 2 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 2 | 3 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **121** | **155** |
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 15 | 18 |
| Бяроза р.в. | 9 | 5 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 10 | 17 |
| Ганцавічы р.в. | 2 | 3 |
| Драгічын р.в. | 2 | - |
| Жабінка р.в. | - | 1 |
| Іванава р.в. | 1 | 2 |
| Івацэвічы р.в. | 3 | 3 |
| Камянец р.в. | 2 | 33 |
| Кобрын гор. | 29 | 14 |
| Лунінец гор. | 4 | 3 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 22 | 4 |
| Пінск гор. | 27 | 44 |
| Пружаны р.в. | 2 | 2 |
| Столін р.в. | 42 | 8 |
| **Усяго:** | **171** | **158** |
| **Гомельская вобласць** | | |
| Буда-Кашалёва | 4 | 1 |
| Брагін р.в. | 1 | 2 |
| Ветка р.в. | 1 | 2 |
| Гомель гор. | 48 | 47 |
| Гомель РВПС | 2 | 2 |
| Добруш р.в. | 2 | 2 |
| Ельск р.в. | - | 2 |
| Жыткавічы р.в. | 13 | 10 |
| Жлобін гор. | 8 | 32 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 2 |
| Карма р.в. | 1 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | 2 | 1 |
| Мазыр гор. | 2 | 31 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | - |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 30 |
| Рэчыца гор. | 6 | 6 |
| Рагачоў гор. | 3 | 4 |
| Светлагорск гор. | 15 | 6 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | 2 | - |
| **Усяго:** | **113** | **182** |

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | 2 | 1 |
| Ваўкавыск гор. | 8 | 11 |
| Воранава р.в. | 4 | 8 |
| Гародня гор. | 103 | 76 |
| Гародня РВПС | 9 | 24 |
| Дзятлава р.в. | 9 | 19 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 1 | 1 |
| Карэлічы р.в. | 5 | 5 |
| Масты р.в. | 9 | 10 |
| Навагрaдак гор. | 12 | 16 |
| Астравец р.в. | - | 3 |
| Ашмяны р.в.. | 26 | 10 |
| Смаргонь гор. | 6 | 6 |
| Слонім гор. | 6 | 14 |
| Свіслач р.в. | 4 | 5 |
| Шчучын р.в. | 7 | 11 |
| Ліда | 30 | 53 |
| **Усяго:** | **242** | **274** |
| **Менская вобласць** | | |
| Беразіно р.в. | 4 | 4 |
| Барысаў гор. | 9 | 11 |
| Вілейка гор. | 8 | 10 |
| Валожын гор. | 8 | 8 |
| Дзяржынск р.в. | 2 | 2 |
| Жодзіна гор. | 9 | 10 |
| Клецк р.в. | 1 | 1 |
| Крупкі р.в. | - | - |
| Капыль р.в. | - | 2 |
| Лагойск р.в. | 8 | 9 |
| Любань р.в. | 11 | 8 |
| Менск гор. | 505 | 603 |
| Менск РВПС | 8 | 11 |
| Маладэчна гор. | 32 | 75 |
| Мядзель | 8 | 5 |
| Пухавічы РВПС | 12 | 9 |
| Нясвіж р.в. | 1 | 6 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 2 |
| Слуцк гор. | 19 | 39 |
| Салігорск гор. | 11 | 11 |
| Ст.Дарогі р.в. | 3 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 5 |
| Узда р.в. | 1 | 3 |
| Чэрвень р.в. | 5 | 5 |
| Фаніпаль | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **671** | **841** |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск гор. | 3 | 1 |
| Бабруйск РВПС | 4 | 18 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | - |
| Глуск р.в. | - | - |
| Горкі гор. | 36 | 11 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | - | - |
| Краскаполле р.в. | - | - |
| Крычаў | - | - |
| Клімавічы р.в. | 39 | 10 |
| Касцюковічы р.в. | 16 | 2 |
| Круглае р.в. | 1 | 13 |
| Мсціслаў р.в. | 26 | 3 |
| Магілёў гор. | 17 | 48 |
| Магілёў РВПС | 2 | 45 |
| Асіповічы гор. | 5 | 43 |
| Слаўгарад р.в. | - | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | - | - |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 5 |
| **Усяго:** | **152** | **201** |
| **Усяго па краіне** | **1470** | **1811** |

## Фронт удзельнічае ў Кангрэсе

10 студзеня адбыўся чарговы Сойм БНФ "Адраджэньне". Сойм разгледзеў кірункі дзейнасці БНФ у 1999 годзе ( зацвердзіў план работы БНФ), а таксама разгледзеў пытанне аб Кангрэсе дэмакратычных сілаў. Па гэтаму пытанню Сойм вырашыў:

1. Прапанаваць сп. сп. Л. Баршчэўскаму, Ю. Хадыку, А. Крывароту, В. Сіўчыку сфармаваць спіс прадстаўнікоў БНФ "Адраджэньне" на Кангрэсе дэмакратычных сілаў.

2. Даручыць групе прадстаўнікоў БНФ "Адраджэньне" (адказны Л. Баршчэўскі) унесці карэктывы ў рэзалюцыі і заявы, падрыхтаваныя на Кангрэс дэмакратычных сілаў іншымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі - удзельнікамі Кангрэсу.

## "Эпоха" - часопіс беларускі

Новы грамадска-палітычны часопіс "ЭПОХА", што з'явіўся не так даўно на Беларусі (пачынаючы ад 1997 года, як самвыдат), выдаецца на дасавецкай беларускай мове згодна з правіламі граматыкі Б. Тарашкевіча. Выданне мае цалкам праеўрапейскі характар і ставіць мэтай інфармаваць беларусаў не толькі пра цяжкасьці нашага жыцця, але і адкрыць таямніцу дабрабыту Захаду і Амерыкі. Шмат месца прысвечваецца правам чалавека. Ужо ў першых двух нумарах можна знайсці дастаткова цікавага чытання аб Кітаі.

Аб накіраванасці "ЭПОХІ" сведчаць рубрыкі: "Сярэдні клас", "Грамадзянін", "Сучасная думка", "Суседзі", "Смех скрозь слёзы", "Антывірус"...

Ці было б гэта магчыма без салідарнасці з польскімі і чэшскімі журналістамі? Магчыма, але не выглядала б так добра. Каляровая вокладка і шмат фотаздымкаў робіць чытанне часопіса цікавейшым. Выданне мае супрацоўніцтва з "Gazeta Wyborcza", "Rzeczpospolita" (Польшча) і "Lidove Noviny" (Чэхія). Часопіс мае 92 старонкі і выдаецца накладам 1000 асобнікаў. Яго можна знайсці ў ТБМ, сядзібе БНФ, БСДГ, альбо ў рэдкцыі бюлютэня "Адкрытае грамадства". Галоўны рэдактар "ЭПОХІ" гісторык і журналіст Алена Стралкова - аўтар нядаўна выданай у Польшчы кнігі пра Беларусь і наш спецыяльны карэспандэнт у Варшаве. Рэдакцыя дзейнічае, як грамадзянская ініцыятыва па-за цэнзурай, на падставе артыкула XIX Усеагульнае дэкларацыі правоў чалавека.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| **Віцебск:** | |
| 1. Канапелька Анатоль | 200 000 руб. |
| 2. Балковіч Ул. | 120 000 руб. |
| 3. Нагорны Ю.А. | 100 000 руб. |
| **Менск:** | |
| 4. Тамара Лойка | 100 000 руб. |
| 5. Уладзімір Голубеў | 300 000 руб. |
| 6. Уладзімір Бордак | 100 000 руб. |
| 7. Валерый Палсцюк | 200 000 руб. |
| 8. Алег Трусаў | 200 000 руб. |
| 9. Гуркоў Сяржук | 100 000 руб. |
| 10. Бураўкін Генадзь | 300 000 руб. |
| 11. Людміла Дзіцэвіч | 100 000 руб. |
| 12. Глушко Аляксей | 200 000 руб. |
| 13. Багданкевіч Святлана | 150 000 руб. |
| 14. Гурыновіч Алесь | 100 000 руб. |
| 15. Дзямід Мікола | 1.000.000 руб. |

Выказваем шчырую падзяку выдавецтву "Кавалер" (Менск) за перадачу ТБМ паштовак у колькасці 1653 асобнікаў.

## Добры дзень шаноўнай рэдакцыі!

Адноўленае "Наша слова" чытаю я з пачатку 1998 года, а ўсё параўноўваю і з ранейшым менскім выданнем. Ад першага гляду бачна наскразнейшая змена канцэпту газеты. Зразумела, што многае сталася дзеля агульных цяжкасцяў аднаўлення газеты, як такой. Я не магу сказаць, што цяперашні варыянт "Нашага слова" мяне цалкам задавальняе, адылі і не хочу шпурляць камяні ў Ваш гарод, бо ж знаходжу я нештачкі цікавае, а нават карыснае на бачынах газеты Вашай. Таму хочу выказаць Вам тое-сёе з сваіх прыхільнасцяў, а непрыхільнасцяў у "Нашым слове".

Цікавай а вельмі карыснай ё рубрыка на паласе "Пагоня за мову" "З чужой моўнай практыкі...", якую вядзе Павел Сцяцко. Выкараненне з мовы рознага кшталту барбарызмаў ё дужа важнаю справай, пагатове не ўсе маюць доступу да слоўнікаў В. Ластоўскага ці Я. Станкевіча. Іншыя матэрыялы на названай паласе часцей падаюцца невыразнымі. Матэрыялы на палосе "Вострвя брама" цікавейшыя, хаця і не заўсягды. Сярод прачытанага найбольш прывабілі артыкулы прысвечаныя А.Міцкевічу а А.Пушкіну. Думаю, што не перабольшу, калі назаву артыкулы А.Блінкоўскага і І.Лепешава найлепшымі ў гэтым годзе.

Самай жа маё любімаю рубрыкай ё рубрыка "Аповесць пра словы".




Дзякуй за ейнае нядаўняе аднаўленне. Парсанальна ж Станіславу Судніку, чые матэрыялы памятаю яшчэ з колішніх выпускаў "ЛіМ", выказваю глыбоку падзяку за ягоную справу.

Што б хацелася бачыць на бачынах "Нашага слова"? Хацелася б бачыць якуюкольвеч рубрыку кшталту "Лабараторыя моўнага пурызму", дзе б моваэнаўцы, а заразом чытачы выказвалі свае прапановы на конт выгнання інтэрнацыялізмаў. Хацелася б бачыць больш матэрыялаў Ул.Содаля. Хацелася б, каб аднавілася рубрыка па крыўскай міталёгіі, якая была ў менскім выданні. Апроч усяго жадалася, каб "Наша слова" дбала аб моўнай аўтэнтычнасці друкаваных тэкстаў. Я разумею, што перайсьці на "тарашкевіцу" Вы не зможаце дзеля незалежных ад Вас прычынаў. Але паасобныя тэксты можна б было друкаваць у класічным правапісе. У рэшце можна агарадзіцца такой самай шыльдай, як сягонняшні часопіс "Спадчына".

Добранькі, я пэўна ўжо замучыў Вас сваімі "нараканнямі". На апошку віншую Вас з годам аднаўлення "Нашага слова" а дасылаю сякі-такі тэкст, можа калі надрукуеце. Ды выбачайце, як ласка, за почырк — крыху баліць далоня, а пісаць усё адно хочацца.

***З павагай — Балахонаў Сяргей.***

### Сп. Суднік !

...Ёсць прапанова. Я, будучы рэдактарам газеты ТБМ "Баранавіцкае слова", у канцы 1993 г. надрукаваў артыкул "Здрада", дзе сабраў много аб дыскрымінацыі беларусаў на Беларусі, у розных галінах дзейнасці. Прапанаваў дэпутатам ад БСДГ у ВС "увясці квоты на пасады для беларусаў, як гэта было зроблена для неграў і індзейцаў у ЗША".

Дзікая Арда адчула нябяспеку і мяне два гады цягалі і потым засудзілі "за разжигание межнациональной розни". Газету закрылі. Я мог іх сустрэчным "іском" парадаваць, каб я раней прачытаў "Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах", падпісаны ўрадам БССР 23.03.1976г.

У ім гаворыцца аб дыскрымінацыі:

а) "забяспечыць кожнай асобе, правы і свабоды якой, прызнаныя ў гэтым Пакце, парушанымі, эфектыўны сродак прававой абароны, нават калі гэта парушэнне было здзейснена асобамі, якія дзейнічалі ў афіцыйнай якасці" (Беларусь, № 3, 1991 г.). Другімі словамі, расейскія камуністы праводзілі дыскрымінацыю беларусаў — усё гэта незаконна і павінна быць выпраўлена. Гэта адносіцца і да Лукашэнкі — Стражаў, Замяталін, Посахаў і др. маюць права займаць 12% пасад. Мы аб гэтым павінны і крычаць, і шаптаць. Канкрэтна. Я аб сабе і беларусах напісаў скаргу у АБСЕ.

Вы б маглі напісаць аб сабе, арміі і беларусах.

Вы бліжэй да Бураўкіна,, сагітуйце яго напісаць, сумесна з рэдакцыяй, аб дыскрымінацыі беларусаў і як вынік — дыскрымінацыі мовы.

Быў калісці артыкул у "Народнай гзеце" аб дыскрымінацыі беларусаў у Гарадзенскім універсітэце. Было б добра, каб была скарга аб гэтым у АБСЕ.

Падкажыце ўсім — няхай пішуць.

Поспехаў Вам.

***Аркадзь Блінкоўскі.***

Каб пачулі.

# МОВА НЕ ПАВІННА БЫЦЬ У АПАЗІЦЫІ



**Генадзь Бураўкін, старшыня Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны**

*Беларуская мова, яе статус і стаўленне да яе ў Беларусі — тэма гаворкі са старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, паэтам Генадзем БУРАЎКІНЫМ.*

***— Генадзь Мікалаевіч, старшынёй ТБМ вы сталі не ў лепшыя для нашай мовы часы. З якімі праблемамі вам даводзіцца сутыкацца, як ацэньваеце становішча мовы карэннага насельніцтва, якая, нароўні з расейскай, лічыцца дзяржаўнай мовай у нашай дзяржаве?***

— Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў нечым унікальная грамадская арганізацыя. Мала ў якой цывільнай краіне ёсць неабходнасць бараніць мову карэннай, тытульнай, як цяпер прынята гаварыць, нацыі. Таварыству даводзіцца займацца не прапагандай мовы, не барацьбой за культуру мовы, яе чысціню, а абаронай самой мовы, яе бытавання і існавання ў дзяржаве. Для многіх гасцей з суседніх краін, з цывілізаванай Еўропы такое становішча рэчаў абсалютна незразумелае. Яны не могуць уявіць, як гэта так: у Беларусі (увесь свет ведае нашу краіну пад імем Беларусь) трэба бараніць не якую-небудзь іншую, а якраз беларускую мову. У нас жа рэальнасць, на жаль, такая, што мы павінны бараніць нашу мову ад непаважлівых адносін да яе не проста неадукаваных, недастаткова культурных людзей, а і ад дзяржаўных чыноўнікаў.

Надоўгім быў перыяд на пачатку Адраджэння, калі адчувалася ўвага і павага і да Таварыства, і да беларускай мовы. Гэта быў час станаўлення нашай дзяржаўнасці, суверэнітэту, і Таварыству ў Менску, і яго суполкам на месцах дыхалася даволі лёгка. Яны мелі падтрымку не толькі грамадскую, але і дзяржаўную, прычым арганізацыйную і фінансавую. Цяпер усё гэта ў мінулым, а каб зразумець наша становішча сёння, прывяду толькі адзін прыклад.

Наша памяшканне на вуліцы Румянцава, 13 было дадзена Таварыству дзяржавай, каб было дзе сустракацца, каб было куды тэлефанаваць, дзе б ішоў абмен досведам. Гарадскімі і рэспубліканскімі ўладамі былі створаны ўмовы, каб мы маглі працаваць. І вось сёлета ТБМ, паводле рашэння Гаспадарчага суда, з гэтага памяшкання высяляюць, не прапануючы нічога ўзамен, спаганяючы з нас грошы за арэнду памяшкання, як з латкоў-ларкоў ... Толькі з вялікай цяжкасцю, пасля доўгіх і няпростых перамоў з рознымі ўстановамі нядаўна ўдалося вярнуцца "дадому". Дзякуй за гэта кіраўнікам Партызанскага раёна і Менскага гарвыканкама, намесніку кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івану Іванавічу Пашкевічу. Хацелася б, каб адносіны да нас з боку дзяржавы змяніліся ў лепшы бок.

***— Чаму сталі магчымымі такія адносіны да мовы?***

— Думаю, вельмі многае залежала ад чыноўнікаў, якія выступалі не толькі супраць беларускай мовы, колькі супраць яе пашырэння, як інструмента Адраджэння, як сродку абуджэння нацыянальнай свядомасці. Відавочнай падставай для прыняцця многіх рашэнняў стаў, безумоўна, рэферэндум 1995 года. Думаю, ён быў патрэбны не толькі для таго, каб высветліць адносіны насельніцтва да расейскай мовы, яе ролі ў жыцці нашай краіны. Ён быў патрэбны чыноўнікам, якія не хацелі авалодваць беларускай мовай. Ім, мабыць, патрэбна было заканадаўства для замацавання сваіх пазіцый хаця б у такім выглядзе, як "роўнасць моў". Хіба для беларускага інтэлігента была калі праблема з расейскай мовай, хіба ён калі ставіўся непаважліва да расейскай мовы? Вось і з'явілася дзве фармальна роўныя дзяржаўныя мовы.

***— Як роўнасць моў, на ваш погляд, ажыццяўляецца на практыцы?***

— Роўнасць моў — гэта іх роўнасць ва ўсіх сферах жыцця. Гэта аднолькавая павага, і, скажам так, аднолькавая патрэбнасць дзяржавай абедзвюх моў на ўсіх узроўнях — школа, ВНУ, урадавыя інстытуты, навука, суд і г.д. А што мы бачым на самой справе? Парламент наш працуе практычна толькі на расейскай мове, большасць міністэрстваў, суды — таксама. І ў выніку наш законапаслухмяны народ зразумеў, што патрэбны пераход на расейскую мову. І ў школах гэта зразумелі. Таму ў школах, часцей за ўсё, пераход на расейскую мову адбываецца не па ініцыятыве бацькоў, а па ініцыятыве дырэктара або завуча. Вазьміце прыклад з гуманітарным беларускім ліцэем, дзе бацькі выбралі сваім дзецям для навучання беларускую мову, а чыноўнікі ім у гэтым перашкаджаюць, хаця па Канстытуцыі павінны забяспечыць права выбару мовы.

Канешне, на гэтым этапе ТБМ працаваць становіцца ўсё цяжэй. Некаторыя вельмі актыўныя ідэолагі з мінулых часоў распускаюць чуткі, што Таварыства беларускай мовы — гэта практычна БНФ, а паколькі ў апошняга дастаткова ворагаў, яны сваю непрыязнасць да БНФ пераносяць і на ТБМ. Мы ж заўсёды падкрэсліваем, што наша Таварыства — непалітычная, грамадская арганізацыя, і мы гатовы супрацоўнічаць і з камуністамі, і з лібераламі, і з сацыял-дэмакратамі, і з БНФ у пытаннях мовы, культуры мовы, абароны і прапаганды яе. Кожны, хто за росквіт беларускай мовы, яе чысціню, — наш сябар, незалежна ад таго, які партыйны білет ён носіць у кішэні. І якраз улады, на мой погляд, сваімі няўмелымі дзеяннямі нямала робяць для таго, каб паставіць мову ў апазіцыю. **Мова не павінна быць у апазіцыі.** А ў нас ужо ёсць гарачыя галовы, якія аб'яўляюць: "Той, хто падтрымлівае Прэзідэнта, гаворыць па-расейску. Той, хто не падтрымлівае, гаворыць па-беларуску".

***— У нашай мове сапраўды трагічны лёс. Яна стагоддзямі не магла дабіцца прызнання на дзяржаўным узроўні. Ці ёсць у гэтым нейкая віна саміх беларусаў? Чым мы адрозніваемся ад іншых народаў?***

— Чым адрозніваемся? Калі ісці ў далёкую гісторыю, у нас многа асаблівасцяў. Мы мелі вельмі кароткі перыяд дзяржаўнасці. У нас было Полацкае княства, яго ў пэўнай меры можна лічыць дзяржавай, быў перыяд Вялікага княства Літоўскага, а потым сваёй дзяржаўнасці ў беларусаў не было. Не было і дзяржаўнасці мовы пасля Вялікага княства Літоўскага. Высокімі расейскімі і польскімі ўказамі беларуская мова наогул забаранялася. Такое бясследна не праходзіць.

***— У савецкія часы наша мова быццам бы і не забаранялася ...***

— Так. У савецкі час быў нават перыяд беларусізацыі. Многія тады думалі, што прыйшла сапраўды светлая пара для талентаў у навуцы, літаратуры, мастацтве. Але хутка абрынуліся рэпрэсіі, калі таленты проста забівалі, ссылалі. І зноў жа, пад якой рубрыкай усё гэта рабілася? Пад рубрыкай барацьбы з нацыяналізмам. Між тым, у цывілізаваным свеце само паняцце "нацыяналізм" не з'яўляецца злачынным. Як лічаць вучоныя, палітолагі, даследчыкі, нацыяналізм у пэўнай ступені прысутнічае ў кожнага народа, у кожнай нацыі. У нас жа "нацыяналізм" — чорная пячатка, а калі ўспомніць 37-ы год — і смяротны прысуд. І вось страх, пасеяны тады, жыве і цяпер, у некаторых усвядомлена, у іншых — падсвядома, у трэціх — як водгулле.

Нас зноў сёння палохаюць нацыяналізмам, груба ставячы знак роўнасці паміж нацыянальным і нацыяналістычным. І гэта адбіваецца на тым, што робіцца з беларускай мовай, што ідзе скарачэнне беларускіх школ і класаў.

***— Колькі засталося ў нас беларускамоўных школ і класаў?***

— Дакладнай статыстыкі на гэты навучальны год мы пакуль яшчэ не маем. Магу толькі сказаць, што, напрыклад, у Магілёве няма ніводнага беларускамоўнага першага класа. У Менску яшчэ ёсць, але вельмі мала: 7 - 10 працэнтаў ад агульнай колькасці класаў беларускамоўныя.

***— На пачатку 90-х гадоў у інтэрвію з Янкам Брылём, я памятаю, пыталася, як заахвоціць людзей да вывучэння роднай мовы, як зрабіць, каб яны палюбілі яе. Ён адказаў, што выхоўваць чалавека трэба з малецтва, і любоў да роднага слова трэба прывіваць з дзіцячага садка, з першых школьных класаў. У той час так і было. Я прыводзіла ўнука ў дзіцячы сад, і малыя віталіся: "Добрай раніцы!", а развітваліся, гаворачы: "Да пабачэння!". Хутка такая завядзёнка знікла. І цяпер у трэцім класе на беларускую мову адведзена адна гадзіна на тыдзень, і адна гадзіна на тыдзень на беларускае чытанне. Што гэта робіцца?***

— Робіцца свядомае выцясненне беларускай мовы з жыцця. Свядомае! У свой час я ў "Звяздзе" надрукавай артыкул "Каб пачулі !". Я тады выказаў прапанову, на якую да гэтага часу не атрымаў адказу. Сутнасць яе ў наступным: існуе рэальнасць, якая заключаецца ў тым, што ў нас вельмі шырока бытуе ў школе расейская мова, якая для многіх сапраўды стала штодзённай і прывычнай. Але ж у краіне ў нас дзве дзяржаўныя мовы, і ў іх павінен быць роўны статус. А паглядзіце, колькі ў школе гучыць — не вывучаецца, а гучыць — расейская мова і колькі беларуская. На беларускай мове — беларуская мова і літаратура, гісторыя Беларусі. Усе астатнія прадметы выкладаюцца па-расейску. Я не такі радыкал, каб патрабаваць ужо сёння вывучэння фізікі ці хіміі толькі на беларускай мове, але значна павялічыць колькасць "беларускіх" гадзін неабходна, каб вучні дасканальна ведалі не толькі Купалу, Коласа, Багдановіча, але і Пысіна, Караткевіча, Стральцова, Еўдакію Лось. Каб яны ведалі не толькі Кастуся Каліноўскага, але і Чарвякова, і Ігнатоўскага і многіх іншых выдатных беларусаў. Каб яны былі "напоўнены" веданнем Беларусі. Каб такое было, я паверыў бы, што нашы кіраўнікі адукацыі стараюцца знайсці, захаваць, забяспечыць роўнасць. А калі такога няма, то, даруйце, інакш як русіфікацыяй такі навучальныя працэс я назваць не магу.

***— А чаму ніхто не супраціўляецца? У чым мы самі вінаваты?***

— А мы вінаваты ў тым, што па кожным канкрэтным факце не патрабуем разабрацца, не патрабуем усё рабіць па закону, а думаем: ну можа, потым неяк будзе. Характар беларускі мяккі, спагадлівы, да ўлады беларус ставіўся заўсёды з павагай, якой бы ўлада ні была. У нас не выхавалі дастаткова пачуцця нацыянальнай годнасці.

Нас часам папракаюць: як гэта вы не хочаце прыядноцца да вялікай расейскай культуры? Чаму ж не хочам? І да культуры Францыі, Іспаніі, Англіі хочам прыяднацца. Толькі чаму расіяне да Шэкспіра могуць прыйсці праз сваю мову, а беларусы праз беларускую не могуць?

Існаванне Расеі як нацыянальнай адзінкі ні ў кога не выклікае сумнення, ніхто не падымае пытання, ці ёсць такая мова — расейская. А ў нас "Народная воля" друкуе ліст нейкага Васілеўскага, які плюе на мову беларускую, і кандыдаты навук на поўным сур'ёзе кідаюцца пярэчыць яму, выхоўваць яго, пераконваюць, што ёсць такі народ — беларускі, ёсць такая мова — беларуская. Абсурд нейкі ...

***— Генадзь Мікалаевіч, у савецкія часы мы многа разважалі аб патрыятызме. Як, на вашу думку, цяперашнім маладым людзям знаёмае гэта пачуццё?***

— Павінна быць знаёмае. Абавязкова. Я не дужа блізка ведаю сучасную моладзь, але, думаю, што для яе азначэнне патрыятызму павінна быць звязана, перш за ўсё, з малой радзімай, бо калі будзеш ведаць малую радзіму — сваю вёску, горад, пасёлак, — то будзе рэальным і азначэнне вялікай радзімы. Я думаю, патрыятызм маладых (і такіх людзей нямала) — гэта найперш любоў да свайго краю, веданне яго. Бо любоў можа быць і эмацыянальнай, з першага позірку, але вялікая, доўгая любоў прыходзіць тады, калі ты добра ведаеш прадмет сваёй любові. Дык для мяне любоў да радзімы — гэта веданне яе гісторыі, гэта павага да бацькоў, дзядоў, да сваёй сям'і. Калі ў чалавека ёсць сям'я, гэта ўжо нейкія зярняткі, з якіх вырастае патрыятызм. Можна з'ехаць з дому, быць далёка ад яго, але ўсё роўна будзеш адчуваць повязь з роднай зямлёй і не станеш перакаціполем, як той Васілеўскі, пра якога я згадваў вышэй. Ён недзе жыў, потым прыехаў туды, адкуль з'ехаў, куды яго вялі нейкія інстынкты, але карані парваліся. Ён можа не ведаць родную мову, забыць яе, але ж гэтым не ганарыцца. Нармальны чалавек саромеецца, а не ганарыцца сваім бяспамяцтвам і хамствам.

***— Я ведаю сотні прыкладаў, калі родная мова для беларусаў за мяжой стала выратаваннем ад настальгіі, яны ведаюць яе лепш, чым многія беларусы на Бацькаўшчыне. Яны чытаюць беларускія кнігі, газеты, слухаюць беларускія песні, і гэта дапамагае ім пераносіць разлуку з радзімай. Яны часта лепш за нас ведаюць гісторыю Беларусі.***

— Калі няведанне замяняецца веданнем, чалавек пачынае думаць. Не толькі ў летувісаў, расейцаў даўняя гісторыя, але і ў нас былі свае выдатныя князі, палкаводцы, песняры, вучоныя. Чалавек разумее, што яму ёсць за што любіць сваю Бацькаўшчыну. Што ж тычыцца маладых людзей, якія цікавяцца гісторыяй сваёй краіны, у іх абавязкова абудзіцца пачуццё годнасці, бо патрыёта без пачуцця годнасці не бывае. А вось годнасці ў нас малавата.

Канешне, многім здаецца, што маладосць даўней была лепшай. І я так часам думаю, але зайздрошчы сёняшнім маладым, таму што яны больш смелыя, яны маюць намнога больш магчымасці доступу да сусветнай цывілізацыі, культуры. Паехаць за мяжу цяпер не праблема. Мы ў свой час такой магчымасці не мелі. Каб я чатыры гады не пажыў у Амерыцы, я б па-іншаму глядзеў на жыццё наогул і на сёняшняе наша жыццё ў прыватнасці. У мяне ёсць магчымасць параўноўваць, і мне крыўдна, што мае землякі за сваю працу не атрымліваюць таго, што павінны атрымліваць, не зведалі многага з таго, што ведаюць цывілізаваныя людзі. У маладых людзей ёсць магчымасць "дагнаць" свет. Толькі трэба, каб яны больш цанілі сябе, ніколі не думалі, што яны людзі другога гатунку. З досведу работы ў ААН скажу, што нашы людзі абсалютна вартыя і прафесіянальныя. Толькі часам тут, дома, на жаль, іх цэняць менш, чым там.

І тое, што замест таго, каб пашырыць сваю прысутнасць у свеце, мы звужаем яе, — вялікая трагедыя. Найперш для маладых. Жыццё краіны, яе шлях павінны вызначаць маладыя. Таму я хачу, каб яны былі лепшымі і шчаслівейшымі за нас.

*Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.*

( Паводле газеты "Чырвоная змена ад 17 снежня 1998 года)



№ 2(387) 13 СНЕЖНЯ 1999 г. наша слова

Прафесар Мікола Савіцкі

# ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З ПАЗІЦЫІ МІЖНАРОДНАГА ПРАВА І ДЭМАКРАТЫІ

Яшчэ ў 18 і 19 стагоддзях усталявалася агульначалавечая норма: у нацыянальных дзяржавах дзяржаўнай мовай з'яўляецца нацыянальная мова карэннага этнасу. Гэта ўспрымаецца і разумеецца як аб'ектыўная, Богам дадзеная рэальнасць, як існуюць зямля, паветра, неба, краявід. Такой праблемы, такога стану мовы карэннага этнасу, як у Беларусі, і адносінаў кіраўніка першай афіцыйнай асобы да мовы беларусаў, у натуральных умовах развіцця карэннага этнасу не існуе. Яна ўзнікае толькі ва ўмовах рэальнага этнацыду, амаральнасці палітыкі: альбо фізічнага знішчэння этнасу ( гісторыя і сучасная барацьба народа Чачні) альбо духоўнага і інфармацыйнага этнацыду (гісторыя і сучасны здзек на дзяржаўным узроўні над роднай мовай беларусаў, іх сістэмай выхавання і навучання, культурай у цэлым).

Дзеянні кіраўніцтва Краіны ў асяродку нармальнай логікі, не кажучы аб фармальнай логіцы, не падлягае асэнсаванню. Навязаныя "прававыя" нормы і дзеянні Прэзідэнта, пазіцыя большай часткі зсаветызаванай інтэлігенцыі, выхаванай у нігілістычнай савецка-імперскай сістэме адукацыі, асабліва ў сістэме выхавання і навучання амаральныя і злачынныя не толькі перад беларускім народам, але і перад усім чалавецтвам. Як быў Нюрбенрскі працэс над групай галоўных фашысцкіх злачынцаў, так жыццёва неабходна ў самы кароткі час прыступіць да падрыхтоўкі, стварэння і правядзення міжнароднага грамадскага працэсу (суда) над забойцамі беларускай мовы — душы беларускага народа.

З пабудовай нацыянальных дзяржаў у свеце ўзнікла пытанне заканадаўчага і маральнага ўсталявання адносінаў да этнічных меншасцяў (звярніце ўвагу — этнічных меншасцяў). Грубай, сілавой, прымусовай палітыкай Расея за два стагоддзі ператварыла класічную расейскую нацменшасць у Беларусі ў духоўную большасць, а этнічную большасць беларусаў на Богам выдзеленай зямлі ператварыла ў штучную часовую нацменшасць. Дзеля выратавання беларускай мовы, культуры аб'ектыўна неабходна як мага хутчэй разбурыць сілай пабудаваны над усёй Беларуссю расейскамоўны панцыр, бо гэты панцыр сцяў нашы беларускія нацыянальныя грудзі да стады смяротнага ўдушэння.

Сучаснае кіраўніцтва Беларусі начале з прэзідэнтам А.Лукашэнкам і прыхаваная акупацыя Расеі ігнаруюць агульнапрынятыя міжнародныя ідэі абароны правоў чалавека і ідэю цярпімасці. Як дасягненне цывілізацыі лічыцца прызнанне і павага асобы на яе права жыць у роднамоўным інфармацыйным асяроддзі. І на гэтае згодна міжнароднага права не дазволена рабіць замах *ні індывідуальна, ні калектыўна, ні ў межах дзяржавы.* Гэта палажэнне мае сілу і да карэннага этнасу, да этнічных меншасцяў.

І акупанты і калабаранты павінны быць цярпімымі да беларускага рэнесансу, нашага Адраджэння. *Цярпімасць азначае:* хаця я чыноўнік і валодаю сілай, каб увесці гэта ці іншае абмежаванне (зачыніць беларускія школы, скараціць выданні беларускіх кніжак) альбо забараніць што-небудзь, але па прычыне лепшага разумення перадумоў чалавечага існавання і чалавечага жыцця я гэтага не зраблю.

Сімпатыі прэзідэнта А.Лукашэнкі да Адольфа Гітлера і падпалены ім беларускі пантэон культуры ў прамове ў педагагічным універсітэце нагадваюць адносіны да 3 млн.габрэяў пры нацыянал-сацыялізме ў Германіі. Права чалавека на родную мову, права карэннага беларускага этнасу жыць і развівацца ў роднамоўным інфармацыйным асяроддзі ёсць *не прывілея, а права,* якое перайшло з "натуральнага права" у "міжнароднае".

*У адпаведнасці з кадыфікаваным правам існуе:*

1. Натуральнае права чалавека на самавыражэнне на роднай мове, як у абіходнай, так і літаратурнай форме;

2. Натуральнае права на грамадскія інстытуцыйныя тыпавыя ўмовы, каб мець магчымасць развіваць сферу роднай мовы як такой.

Дзяржава, яе кіраўніцтва абавязаны ствараць усе магчымыя ўмовы для рэалізацыі і развіцця гэтага права. На жаль, натуральнае (Богам дадзенае) права для сучаснага кіраўніцтва Беларусі не з'яўляецца фармальным правам. А гэта вядзе да барацьбы, пакуль што бязбройнай за духоўнае, а значыць і фізічнае выжыванне. Пакуль мы займаліся абарончай барацьбой, спадзяючыся на тое, што прэзідэнт А. Лукашэнка адумаецца і не прывядзе да трагічных вынікаў пастаяннага змагання за натуральнае права выжыць беларускай культуры.

*Гарантам і абаронцам* натуральнага права беларусаў у іх барацьбе за родную мову з'яўляецца *міжнароднае права.* Нагадаем, што міжнароднае права з'яўляецца абавязковым правам пры ўсталяванні адносінаў паміж двума ці некалькімі суб'ектамі (паміж беларускім этнасам і дзяржаўным антыбеларускім адукацыйным рэжымам).

*Міжнародныя прававыя нормы па сусветнаму прызнанню правоў чалавека па азначанай праблеме зафіксаваны ва:*

1. "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" ААН ад 10.12.48г.
2. "Пактах ААН па правах чалавека"; у "Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах" ад 19.12.66г.
3. "Канвенцыі аб прадухіленні і пакаранні генацыду" ад 09.12.48г.
4. "Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах" ад 19.12.66г.
5. "Міжнародным пакце аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах" ад 19.12.96г.
6. "Хартыі ААН" ад 26.06.45 г.

ААН стварыла "Камісію па правах чалавека" са штаб-кватэрай у Жэневе. У яе складзе ёсць падкамісія па прадухіленню дыскрымінацыі і па абароне меншасцяў. На сёння стан ужытку беларускай мовы і неабходнасць стварэння беларускамоўнага асяроддзя адпавядае духу і зместу гэтай камісіі. Мы маем сітуацыю: нацыянальна-свядомыя беларусы ёсць нацменшасць у этнічнай беларускай большасці. На жаль правы падкамісіі абмежаваны: у выпадку паступлення скаргаў "не прадстаўляюцца паўнамоцтвы прымаць якія-небудзь меры" (пункт 1) — толькі правядзенне даследванняў, выпрацоўка рэкамендацый для Эканамічнага Савета, які супрацоўнічае з Генеральнай асамблеяй ААН. Камісія па правах чалавека можа "ствараць спецыяльны камітэт для аб'ектыўнага даследвання парушэнняў правоў чалавека". Прапаную ініцыяваць пастаноўку гэтага пытання.

*У артыкуле 27 "Пакта аб правах чалавека" сказана, што народ не павінен пазбаўляцца права "весці ўласнае культурнае жыццё" і "карыстацца сваёй мовай".*

Прэзідэнт А.Лукашэнка ўзначальвае кампанію па прапагандзе (адмоўныя, брыдкія публічныя выказванні ў адносінах да беларускай мовы) і практычнай рэалізацыі ( разбурана беларускамоўная сістэма выхавання і навучання, рэзкае скарачэнне беларускамоўных выданняў) шавіністычнай тэорыі перавагі мовы і культуры Расейскай імперыі над беларускай. А гэта супярэчыць "Міжнароднаму пагадненню аб ухіленні любой формы расавай дыскрымінацыі" ад 07.03.66г. У ёй *адхіляецца любая выключнасць, абмежаванне альбо перавага, заснаваныя на нацыянальных каранях альбо этнасе. Адхіляецца таксама ўшчамленне па этнічнай прыналежнасці.*

Усе пералічаныя вышэй міжнародныя нормы абароны правоў чалавека падмацоўваюцца (што вельмі важна для нас) "Пагадненнем аб непрымяненні тэрміну даўнасці да ваенных злачынцаў і да злачынства супраць чалавечнасці" ад 26.11.68г. Аб гэтым трэба ведаць і Прэзідэнту і ўсёй яго вертыкалі, а таксама прафесарам Шубе, Мурынай і ўсім, хто ігнаруе правы беларусаў.

Правы чалавека і Еўрапейскае супольніцтва.

У 1950 г прынята "Канвенцыя па абароне правоў і асноўных свабод чалавека" і створана "Еўрапейская камісія па правах чалавека" з цэнтрам у Страсбургу, утвораны "Эўрапейскі суд па правах чалавека". У пераліку асноўных правоў названай Канвенцыі ў першым раздзеле, *арт. 14 забараняецца дыскрымінацыя на аснове этнічнай прыналежнасці і наадварот* — станоўча ацэнены абавязак забяспячэння асноўных правоў і свабод.

Вядома, што ў Канстытуцыях (нават СССР) даецца пералік асноўных правоў чалавека, аднак яны не заўсёды выконваюцца. Таму ў Канвенцыі сказана: нават калі асноўныя правы тым ці іншым чынам агаворваны законам, абмежаванне з боку закона не павінна знаходзіцца так далёка, каб асноўны змест якога-небудзь з правоў быў зліквідаваны.

У сістэме выхавання і навучання дзяржава абавязана паважаць правы бацькоў на забяспечанне выхавання і навучання ў адпаведнасці з іх рэлігійнымі перакананнямі і светапоглядам. Заўважым, што аб мове навучання нацыянальных меншасцяў нічога не гаворыцца. Расейцы ў Беларусі належаць да нацыянальнай меншасці і паводзіць сябе павінны ў поўным суладдзі з міжнародным правам і Законамі.

У нацыянальнай дзяржаве арганізацыя выхавання і навучання на дзяржаўнай мове падразумеваецца, як нешта само сабой зразумелае.

У "Заключным Хельсінскім акце" (1975 г.) запісана, што дзяржавы-удзельніцы (Беларусь далучылася) абавязаліся на сваёй тэрыторыі паважаць правы чалавека і абараняць законныя інтарэсы яго. Аб'ектыўная неабходнасць і жыццёвая патрэбнасць у захаванні беларускай мовы ёсць законныя інтарэсы беларусаў. Палітыка прэзідэнта і яго атачэння скіравана насуперак здароваму сэнсу і міжнародным прававым нормам на тое, каб беларускі этнас стаў "этнічнай меншасцю" у Расейскай імперыі.

Згодна Заключнага Хельсінскага акта дзяржава - Беларусь павінна прыкладваць намаганні, каб усе неабходныя заканадаўчыя, адміністратыўныя, судовыя і іншыя меры забяспечвалі абарону правоў чалавека і асноўных свабод на сваёй тэрыторыі. У пункце 45 дакладна выражана права на атрыманне, распаўсюджванне і абмен інфармацыі на роднай мове (у беларусаў — беларускай), а ў пункце 69 — права на навучанне ў рамках уласнай культуры (расейская культура для беларусаў ніколі роднай не была, як і культура ўсіх нашых суседзяў; яна сілай прынесена і стала забойцай беларускай мовы).

Вельмі важным міжнародным документам з'яўляецца "Нарада па чалавечым вымярэнням СБСЕ" (29.06.90 г.). У чацвёртай часцы сфармуляваны правы нацменшасцяў і спосабы іх абароны. *Павага права на родную мову, культуру разглядаецца як значны чыннік захавання міру.* Чалавек мае права свабодна выказваць, захоўваць і развіваць сваю культуру ва ўсіх яе аспектах *без якіх небудзь паімкненняў быць асіміляваным супраць сваёй волі.*

Згодна пункта 32. 1. чалавек мае права свабодна карыстацца роднай мовай, як у прыватным парадку, так і ў грамадскіх месцах. Пункт 32.2. гарантуе: "заснаваць і ўтрымліваць на роднай мове адукацыйныя, культурныя і рэлігійныя ўстановы", а пункт 32.3. — праводзіць рэлігійнае навучанне на роднай мове. Права распаўсюджваць інфармацыю на роднай мове, абменьвацца ёю і мець доступ да такой інфармацыі (пункт 32.5.).

Дзяржавы-удзельніцы будуць (пункт 33) абараняць культурную, моўную і рэлігійную ідэнтычнасць на сваіх тэрыторыях і ствараць умовы для падтрымкі гэтай ідэнтычнасці. Вельмі важны 34-ы пункт — *забяспечыць магчымасць для вывучэння роднай мовы і вывучаць іншыя прадметы на роднай мове.*

У пункце 40 запісана, што дзяржавы - удзельніцы "прызнаюць асобыя праблемы цыган". Няўжо наш прэзідэнт прымушае нас паставіць пытанне перад міжнароднай супольнасцю аб прызнанні асобых праблем беларусаў ва ўмовах дзяржаўнага, бытавога этнацыду на Беларусі да карэннага этнасу?

Прызнаецца права (пункт 40. 57) ушчэмленых асобаў і груп падаваць і падтрымліваць скаргі па дыскрымінацыйных дзеяннях. Вось наша прававая абарона і абгрунтаванне актуальнасці і правамоцнасці ўсіх дзеянняў і акцыяў па захаванню беларускай мовы.

Нават беглы аналіз дакументаў міжнароднага права паказвае, што сусветная супольнасць надзейна абараняе кожны народ ад асіміляцыі. Пры гэтым народ мае права на родную мову, на выхаванне і навучанне ў ёй, на родную культуру. Народ мае права і абавязак перад усімі народамі свету жыць у роднамоўным інфармацыйным асяроддзі. Знікненне любой мовы, культуры — гэта незваротныя страты і збядненне многакультурнасці грамадства, цывілізацыі. Прыйсці да шматкультурнасці немагчыма без роднай мовы, для беларусаў — беларускай.

*Дэмакратыя і дэскрымінацыя.* Ва ўмовах рэальнага этнацыду ў Беларусі выратаванне беларускай мовы і яго носьбіта магчыма толькі тады, калі народ Беларусі адчуе сябе аб'яднаным агульнай любоўю да агульных каштоўнасцяў: нацыянальнай беларускай ідэі, беларускай мовы, культуры, гісторыі.

*Аб цярпімасці.* Адна з дэмакратычных працэдураў патрабуе: дасягнуць такога ўсталявання сумеснага жыцця людзей, пры якім не пацярпела б нічыя годнасць і ўсім, уключаючы меншасці — афіцыйна была б дадзена магчымасць свабодна самаўсталявацца. Цярплівасць ва ўмовах дэмакратыі азначае жаданне прадаставіць інакшдумаючым магчымасць адкрыта праяўляць свае іншабыццё (беларускамоўнае асяроддзе), пры ўмове, што пры гэтым не будуць ушчамляцца адпаведныя магчымасці іншых, напрыклад расейцаў.

Дэмакратыя патрабуе: *да той пары, пакуль дзейнічае канстытуцыя, немагчымы ніякія заканадаўчыя акты народа, нават калі за іх прагаласуюць усе грамадзяне.* Любая акцыя, арганізаваная насуперак альбо наперакор нормам Канстытуцыі, становіцца дзяржаўным канфліктам альбо рэвалюцыяй (праф. К.Шмід, Нямеччына). Многія думаюць, што інстытут рэферэндуму з'яўляецца самым лепшым сродкам для прагрэсіўнай палітыкі. Досвед паказае, што вынікі ўсенароднага галасавання амаль заўсёды скіраваныя на захаванне статус-кво.

Яшчэ Э.Кант пісаў, што свабода дадзена толькі там, дзе існаванне чалавека трымаецца на законе. Пагэтаму пры дэмакратыі не павінны быць магчымым, нават пры дапамозе часовай канстытуцыйнай большасці, прыняццё законаў, якія супярэчаць Канстытуцыі. Спачатку павінен быць зменены тэкст Канстытуцыі, а затым могуць выдавацца жаданыя законы.

Дэмакратыя, пры якой людзям зачынены рэальны доступ да каштоўнасцей культуры і адукацыі ёсць сама супярэчнасць. У дэмакратычна пабудаванай дзяржаве ўлада павінна быць моцнай. Сілай могуць і злоўжываць. Ад любога злоўжывання сілай павінен быць абаронены кожны чалавек і ўвесь народ у цэлым.

